№ 135 (1200)

Пятніца, 27 ліпеня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разо у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

### Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне чакаецца пераменная воблачнасць, на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер пераменных напрамкаў, 4—9 м/с, пры навальніцах парывы да 15—20. Тэмпература паветра ўначы — +18...+20, удзень у Брэсце, Гродна, Мінску — +24...+26, Віцебску, Гомелі, Магілёве — +28...+30.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, на большай частцы тэрыторыі дажджы, навальніцы. Вецер пераменных напрамкаў. Тэмпература паветра ўначы — +18...+23, удзень — +28...+33.



ПУЛЬС

## "Пяцёрка" будзе працаваць на Ганчарыка

Лідэр Партыі камуністаў Беларускай (ПКБ) Сяргей Калякін заявіў, што незалежна ад таго, будзе ён далей удзельнічаць у выбарчай кампаніі ці не, яго рашэнне аб падтрымцы адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзіміра Ганчарыка застанецца ў сіле. Такую заяву лідэр ПКБ зрабіў на сустрэчы з журналістамі.

У сувязі з гэтым, адзначыў С.Калякін, дзеянні Цэнтрвыбаркама, які адмаўляецца прызнаць, што ў яго падтрымку сабрана больш за 100 тысяч подпісаў, цяпер "хутчэй носяць маральна-псіхалагічны характар". Разам з тым, па словах С.Калякіна, ён усё ж мае намер дабівацца справядлівасці дзеля таго, каб у членаў яго ініцыятыўнай групы не заставалася сумненняў у тым, што пастаўленая перад імі задача выканана.

Яшчэ адзін прадстаўнік "пяцёркі", генерал Павел Казлоўскі, таксама заверыў журналістаў у тым, што перагляду рашэння па адзінаму кандыдату ад шырокай дэмакратычнай кааліцыі не будзе. П.Казлоўскі заклікаў Міхаіла Марыніча і Леаніда Сініцына — далучыцца да руху "пяцёркі" і падтрымаць на прэзідэнцкіх выбарах У.Ганчарыка.

П.Казлоўскі заявіў, што ў яго падтрымку здадзена больш чым за 100 тысяч подпісаў, а не 80 тысяч, як сцвярджае Цэнтрвыбаркам. Аднак, лічыць генерал, даказаць сваю правільнасць ніводнаму з прэтэндэнтаў не атрымаецца, паколькі па ім ужо прынята рашэнне "аднаго карчакаватага пальца".

Міхаіл Чыгір таксама ўпэўнены ў тым, што дамова, якая дасягнута членамі "пяцёркі", захаваецца, і ўсе дэмакратычныя рэсурсы будуць накіраваны ў падтрымку адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі. На яго думку, дабіцца справядлівых вынікаў збору подпісаў "было б добра", аднак зрабіць гэта "абсалютна немагчыма".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Крымінальная справа Віннікава перададзена ў суд

Крымінальная справа ў адносінах да Сяргея Віннікава, сына былой старшыні Нацыянальнага банка Беларусі Тамары Віннікавай, перададзена ў суд Цэнтральнага раёна Мінска. Па словах старшыні суда Пятра Кіркоўскага, працэс пачнецца не раней чым праз два тыдні — прыкладна ў першай дэкадзе жніўня.

С.Віннікаў і яшчэ тры чалавекі абвінавачваюцца ў незаконным абароце наркатычных сродкаў — частка 3 артыкула 328 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Ім пагражае ад 5 да 10 гадоў пазбаўлення волі. С.Віннікаў быў затрыманы ў Мінску 21 сакавіка гэтага года і абвінавачаны ў спробе збыцця 5 грамаў гераіну. Падчас следства, як сцвярджаюць супрацоўнікі праваахоўных органаў, былі ўстаноўлены і іншыя эпізоды збыцця наркотыкаў.

Трэба адзначыць, што арышт С.Віннікава супаў па часе з пачаткам публікацыі ў сродках масавай інфармацыі шматлікіх артыкулаў і інтэрв'ю яго маці, якая зараз знаходзіцца ў эміграцыі. Затым Т.Віннікава раптам спыніла публікацыю сваіх артыкулаў і інтэрв'ю, а таксама кнігі, у якіх выкрыла непрыстойнасць многіх высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў. Экс-кіраўнік Нацбанка Беларусі растлумачыла гэта тым, што на яе адрас і адрас яе сваякоў пачалі паступаць пагрозы і папярэджанні аб расправе.

## Жонкі зніклых паедуць у правінцыю

Жонкі вядомых у Беларусі людзей, якія падвергліся палітычным рэпрэсіям альбо прапалі без вестак — Людміла Карпенка, Таццяна Клімава-Леановіч, Ірына Красоўская і Святлана Завадская, — правялі прэс-канферэнцыю па выніках сваёй паездкі ў Маскву (7—9 ліпеня), Парыж (9—10 ліпеня) і Вашынгтон (17—19 ліпеня).

Як заявілі ўдзельніцы прэс-канферэнцыі, галоўнай мэтай паездкі было прыцягненне ўвагі шырокай міжнароднай грамадскасці да таго, што адбылося з іх блізкімі. Гэта, лічаць яны, у поўнай меры ўдалося.

Паездка ўжо дала канкрэтныя вынікі. Аб праблеме прапаўшых людзей прынята заява дзярждэпартамента ЗША; там жа былі арганізаваны два брыфінгі, прысвечаныя "беларускаму пытанню".

З пэўнай заявай выступілі некаторыя сенатары. Амерыканскія палітыкі паабяцалі беларускім жанчынам садзейнічанне ў стварэнні міжнароднай камісіі па расследаванні кожнага асобнага выпадку знікнення ці гібелі беларускіх палітыкаў. Сенатары намецілі планы абмеркавання з прэзідэнтам Джорджам Бушам тэмы правоў чалавека ў Беларусі і аказання ўплыву на Расію па гэтаму пытанню. Кангрэсмен Крыстафер Сміт выказаў жаданне прыехаць у Беларусь падчас выбараў прэзідэнта і сустрэцца з палітычнымі вязнямі. У цэлым жа амерыканскія палітыкі заявілі аб цвёрдым намеры падтрымліваць дэмакратычныя сілы краіны незалежна ад вынікаў выбараў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

ВЫБАР-2001

# Экіпаж машыны баявой...

**Алесь СІЛІЧ**

Селедка

Хто?

**Углядзіцеся, паважаныя грамадзяне, у гэтыя твары: сярод іх — твар другога прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Цэнтральная выбарчая камісія зацвердзіла канчатковыя лічбы подпісаў, сабраных прэтэндэнтамі на прэзідэнцкую пасаду. Згодна з інфармацыяй Цэнтрвыбаркама, далей у прэзідэнцкай гонцы маюць права ўдзельнічаць чатыры прэтэндэнты — Уладзімір Ганчарык, Сяргей Гайдукевіч, Сямен Домаш і Аляксандр Лукашэнка.**

Сакратар ЦВК Мікалай Лазавік паведаміў журналістам, што "ён не чакаў, што колькасць прэтэндэнтаў, якія збяруць і здадуць больш за 100 тысяч подпісаў, будзе такой малой - толькі чатыры чалавекі". Паводле яго словаў, "ніякіх перашкод пры зборы подпісаў не было, і ЦВК заўсёды аператыўна рэагіравала на скаргі ініцыятыўных груп".

Дазволю сабе не паверыць да канца ў абсалютную аб'ектыўнасць спадара Лазавіка. Як зразумець, што даволі шмат прэтэндэнтаў, дзесяткі разоў пераправерыўшы свае даныя па сабраных подпісах, у першы ж дзень пасля таго, як яны былі здадзены ў ЦВК, даведаліся, што гэтых самых подпісаў у іх недастаткова? Сярод "невязунчыкаў" — Павел Казлоўскі, Міхаіл Чыгір, Сяргей Калякін, Леанід Сініцын, Міхаіл Марыніч і іншыя. Яны што, раптоўна лічыць развучыліся? Я мог бы яшчэ зразумець, калі нейкія цяжкасці пачаліся ў кандыдатаў у кандыдаты пасля праверкі здадзеных подпісаў. Але ж, прабачце, у першы дзень... Ці не папахвае ўсё гэта выкананнем палітычныга сцэнарыя, ініцыраванага пэўнымі сіламі, а не звычайным падпарадкаваннем Закону і выбарчаму заканадаўству?

Але ж выбарчая камісія ўсё ж такі пацвердзіла, што лічбы канчатковыя і ніхто іншы ў "экіпаж машыны баявой" дапушчаны не будзе. ЦВК таксама зацвердзіў умовы выкарыстання дзяржаўных СМі кандыдатамі ў прэзідэнты - "яны атрымаюць права апублікаваць свае праграмы ў васьмі дзяржаўных цэнтральных газетах і па два разы ў запісе выступіць з трохвілліннымі прамовамі на Беларускім радыё і тэлебачанні".

Спадзяюся, што гаварыць на Беларускім тэлебачанні альтэрнатыўныя кандыдаты будуць не вуснамі Зімоўскага ці Казіяткі. А ўсім кандыдатам у рэшце рэшт дадуць мікрафон, і мы даведаемся, что ў прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду існуюць усё ж такі галасавыя звязкі.

Як вядома, баявым танкам упраўляюць чатыры члены экіпажа. Чацвёрку ўпраўленцаў мае таксама самалёт. Глядзіце: чатыры прэтэндэнты засталіся і на галоўную пасаду ў беларускай дзяржаве. Пакуль што на ўсіх чатырох месцах упраўлення нашай беларускай машынай, калі можна так выказацца, ужо сем гадоў сядзіць адзін чалавек — Аляксандр Лукашэнка. Ён — і за вадзіцеля, і за штурмана, і за ідэалагічнага стралка, і за...

Зараз усё мяняецца: у беларускі танк "пралезлі" іншыя кіроўцы. Сярод іх — камандныя ігракі Уладзімір Ганчарык і Сямён Домаш. На нешта прэтэндуе адзіночка Сяргей Гайдукевіч. Ці атрымаецца ў новых членаў экіпажа даць сапраўдны бой "універсалу" Лукашэнку? Паглядзім...

Упэўнены, што каманда заўсёды мацней за аднаго, і працуючым у пары Ганчарыку і Домашу па сіле перамагчы на выбарах. Але ж, улічваючы тую гвалтоўнасць, з якой штучна выкінутыя з прэзідэнцкай гонкі такія моцныя кандыдаты, як Чыгір, Казлоўскі, Калякін, Сініцын, Марыніч, здаецца мне, што "дазволяць" нам выбіраць, у рэшце рэшт, толькі паміж існуючым правіцелем і Гайдукевічам...

Успомніліся словы старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, якая ў адным інтэрв'ю сказала, "што прэзідэнцкія выбары будуць прызнаны нават пры ўдзеле ў іх аднаго кандыдата". Я здагадваюся, каго спадарыня Ярмошына мела на ўвазе.

Можа, хопіць гуляць у шахматы метадамі Астапа Бэндэра?

ЭКСКЛЮЗИВ

## Был генерал Лопатик. Был сыщик. А теперь... просто музейный экспонат

**Марина КОКТЫШ.**

*Бывший начальник ГУКМ МВД генерал-майор Николай Лопатик в ноябре прошлого года написал министру внутренних дел Владимиру Наумову рапорт, в котором лаконично излагалось, кому и когда нынешний генеральный прокурор Беларуси Виктор Шейман дал указание уничтожить Юрия Захаренко, Виктора Гончара и Анатолия Красовского. До недавнего времени данный документ значился под грифом "сов.секретно"...*

*Как журналисту независимой газеты, мне захотелось лично побеседовать с Николаем Ивановичем. Однако беседа — как одежда. Бывает строгая, но элегантная и понятная. Бывает пляжная и доступная. Повседневная, но загадочная и многозначительная. Разговор с генерал-майором Николаем Лопатиком не стоит воспринимать буквально. Этот текст следует читать не только между строк, но и справа налево.*

*И еще. Сегодня некоторые генералы ради спасения собственной шкуры готовы выполнить любой приказ "вождя". В отличие от них, генерал Лопатик человек не "государев", а государственный.*

— Сижу на природе, — говорит Николай Иванович. — Переживаю за дело. На работу идти больше не думаю. Скоро буду увольняться на пенсию...

Написанное в газетах комментировать не могу. И не буду. Болел. Все забыл. Если что и было... Спросить меня могут только мои начальники и руководители государства. Может, буду вспоминать, что и как... А вообще-то, моя работа секретная. Как можно говорить с посторонним человеком о государственных секретах?

**— Как человек, осмелившийся приоткрыть завесу над некоторыми государственными секретами, за жизнь свою не опасаетесь?**

— Я уже столько смертей видел и в стольких ситуациях экстремальных был... Ничего я не боюсь. У меня нет детей. Самое главное — жена. Она помогла всю жизнь пройти, до генерала дорасти. И кошка, которая без меня тоже жить не будет. А так... Чего мне бояться? Умные — сами рассудят. А дурак... Разве дураку что-то запретишь? Тем более в настоящее время средств столько всяких... Думаю, если погибну от чужой руки, то из рогатки кто-то застрелит... Вот и все.

Работать, повторяю, больше не собираюсь. В нашей системе найду такую работу, чтобы мой накопленный опыт — как человека посадить в тюрьму или доказать, что он невиновен, — отдать не среднему звену руководителей или работников, а первокурснику наших учебных заведений. Чтобы знали, что их ждет за жизнь. Что рано или поздно придут корреспонденты. Будут выспрашивать о секретных документах, а ты попытаешься им ничего не говорить, потому что не имеешь права. Но это так...

На природе хорошо... Отдохнул. Сил набрался. Не для больших дел, а так, для себя. Для жизни. И будем жить, если судьбой позволено.

Надо что-то будет делать... Если скажут... Я ведь подчиненный. Я буду делать.

**— Исполните любой приказ?**

— Приказ буду исполнять. Но с головой.

Мне в жизни везло на руководителей. Они меня не ругали. Немного хвалили. Поощряли много. Но самое главное — позволяли работать на свое усмотрение. А я старался не подводить. Потому что знал: плохих людей в государстве должно быть как можно меньше. Хотя они как бумеранг... Все отрицательное распространяют на свое окружение. Огромное число людей... А это плохо. Вот с такой позиции я и рассуждаю...

Вот и все. Был генерал Лопатик. Был сыщик. А теперь... просто музейный экспонат...

**— Отягощенный таким грузом информации спите спокойно?**

— Я не вижу никакой информации. Нет никакой информации для людей! Есть информация для... На всей информации, которую я добываю, стоит гриф "Секретно" и "Сов.секретно". Все. Ничего не вижу. Сплю спокойно дважды в день. Днем и ночью.

Все тридцать лет на оперативной службе я работал с информацией. За которой были люди. К счастью, мне удавалось не подставлять этих людей. Значит, все было нормально... Кто-то сегодня, может быть, использует какую-то мою информацию. Я считаю, это неблагородное дело. По лбу за это надо дать. Чтобы думали, что делают...

**— Вы лично знакомы с командиром СОБРа Дмитрием Павлюченко?**

— Нет. У нас с ним совершенно разные жизненные задачи.

**— Вы знаете, где сейчас находится начальник СИЗО полковник Олег Алкаев, допустивший Павлюченко на исполнение смертных приговоров?**

— Он не мой подчиненный. С чего бы это вдруг я буду интересоваться, где он и что с ним?

**— Николай Иванович, будут ли когда-нибудь раскрыты дела Захаренко, Гончара, Красовского и Завадского?**

— Безусловно. Но когда — не скажу. В прошлом году, например, мы раскрыли преступление шестнадцатилетней давности. Первый теракт в городе Минске. Повторяю: мы раскрыли его только через шестнадцать лет!... Но раскрыли.

Я в своей работе оптимист. Ничего тайного не может и не должно остаться. Если работать. В том числе и в этих делах.

Несмотря ни на что, помните: сыск Беларуси работает по всем зарегистрированым делам. Ни на минуту не останавливаясь...

# Выбары ў паветцы,

## або Вясковы погляд на перадвыбарную кампанію

**Васіль ГРОДНІКАЎ**

*(Заканчэнне. Пачатак у № 134)*

Каб асадзіць касу, вялікай хітрасці не трэба. Але, пакасіўшы ёй крыху, яна ў мяне, натыкаючыся на быльнёг, выпрамлялася, як кінжал на карабіне. Я і сяк, я і так мудраваў, але без прылад, якія ёсць толькі ў майго суседа, мне не справіцца.

Няёмка быць няўмекам, але што зробіш. Мусіў зноў ісці да Язэпа.

Пад паветкай сядзела тая ж кампанія, быццам Марыля і не праганяла іх. Не было толькі Дамініка: ён сёння пасе калгасны статак. Затое прыйшоў Мішка — Язэпаў сусед з другога боку вёскі.

— Ну, з гэтым мы хутка справімся, — усміхнуўся, аглядаючы маё кассё, добразычлівы Язэп. — Такое ва ўсіх гарадскіх бывае. Косіш ты добра, сам наглядаў, а з касарскай прамудрасці не ўсё ведаеш. Пасядзі крыху, зраблю — малады бярэзнік рэзаць будзе.

Убачыўшы газету ў маёй кішэні, мужыкі ажывіліся, быццам гэта была не газета, а бутэлька першаку.

— Аднаго разу я таксама хацеў такую выпісаць, — загаварыў Мішка, — то мая грошы вырвала з рук ды яшчэ і набрахала: ты што, у пастарунак захацеў? Ну, што ты дурной бабе скажаш? Настаіш на сваім — яна табе каранцін на месяц абвесціць. Ну, я і рашыў, лепш без газеты пераб'юся...

— І ў мяне такое было, — зарагатаў Кузьміч. — Дык я хітрэй зрабіў. Я ў Веры Казількі транзістар купіў па дзяшоўцы. І цяпер гэтую скрынку пад паху ды за статкам — на выпас. У чыстым полі, на чыстым паветры ой як добра чуваць "Свабода". Без памех бярэ, без усялякага трэску.

— Вось чаму ты пра выбары ўсё ведаеш. Заляжаш са сваёй "Свабодай" у канюшыне, а каровы — у патраву. Трэба будзе падказаць старшыні, хто пад Малашкамі ўсё жыта стравіў...

### Першы тур

Пасля вясёлай хвілінкі, праз слова-другое ўзбіліся на ўчарашнюю тэму.

— Як ты лічыш, Кузьміч, ці праўду кажа Лукашэнка, што апазіцыі з Захаду вагонамі даляры пруць?, — пацікавіўся Мішка.

— Каб не маніў, усё было б праўда, — адмахнуўся той, як ад нечага надакучлівага. — Любяць у нас лічыць грошы ў чужых кішэнях. А ці заўважылі вы вось што? Як трэба каго-небудзь з праціўнікаў Лукашэнкі абліць брудам, то першае, што шыюць — грошы. Накраў, нарабаваў, нажыў з дапамогай нячыстай сілы. Раней не бачылі, не ведалі. А ведаеш, ад чаго гэта? А ад таго, што такая мана найбольш удала дзейнічае на такіх вось, як мы, галазадых жабракоў. А пра вагоны я так табе скажу. Табе паказалі па тэлебачанні або напісалі ў газеце хоць бы адзін такі вагон і колькі там грошай? Не! Захадам палохаюць, НАТО пужаюць — брахня! Гэта, скажу я табе, навука такая ёсць: калі не хочаш, каб людзі цікавіліся справамі ў краіне, працай улады, прэзідэнта, ты напалохай людзей чым-небудзь або адцягні іх увагу ў іншы бок. Не стануць жа табе расказваць пра жабрацкія пенсіі, пра абы якія зарплаты, пра нявыплаты грошай. Табе раскажуць пра НАТО, вашывую апазіцыю, пра Амерыку, шпіёнаў, пра Югаславію, дзе чырвонага ката прыцягнулі да адказнасці. А ты думай і бойся: а раптам, напрыклад, ляхі прыйдуць, немцы вернуцца, апазіцыя, калі дабудзе ўладу, усіх Лукашэнкавых падбрэхічаў на слупах развешваць будзе. Усё гэта ідзе ад характару нашага правадыра: ён не можа спакойна жыць, калі ў краіне ціха. Яму, як таму Савосю-разбойніку, так і хочацца рукі пачасаць. Правільна, і язык таксама. І ўсё дзеля таго: будзеш трымаць людзей у страху, будзеш напамінаць ім, што адзіны ў іх заступнік — сённяшні прэзідэнт, значыць, галасы валам паплывуць у скрынку Лукашэнкі. І ўлада яму сама прыйдзе ў рукі. Мы яе прынясём, застрашаныя халуі, быдла. А ён, пустабрэх, добра ведае, на што націскаць. Ён вайной страшыць, бо нам, беларусам, тая вайна яшчэ і сёння ў пячонках сядзіць. І шмат такіх, як вось ты, вушы развесяць і глытаюць гэтую лухту, не перажоўваючы...

— Не заводзься, Кузьміч, — супакойвае яго Язэп. — Ну, пры чым тут Мішка? Сказаў і сказаў. Не крыўдуйце, мужыкі. Нам дзяліць няма чаго. Гэта тыя, хто пры ўладзе, чубкі дзяруць, таму што ёсць што дзяліць. А нам... Ат, тае і бяды... Я, мужыкі, вось яшчэ пра што падумаў. А давайце правядзём, як гэта там у іх, ага, першы тур. Адбярэм найбольш вартых кандыдатаў, хто можа выйсці ў прэзідэнты. Трэба было б выбраць такога, хто б ведаў, што з вёскай рабіць. Тут жа, вы самі бачыце, усё развальваецца. А нам бармочуць пра нейкую перспектыву. Так толькі п'яны пад плотам можа. Вось і радыё слухаю і газеты калі-нікалі чытаю, а ў толк узяць не магу: чаму не спрабуем жыць так, як тыя разумныя людзі, у якіх усё ёсць? Што перашкаджае?

— Галава, — коратка патлумачыў Кузьміч. — Гэта, скажу я табе, асіліць могуць толькі разумныя людзі. Вось такія, як Сталыпін. Не чуў? Яшчэ пачуеш! Ты ж падумай, колькі год разбуралі сельскую гаспадарку, колькі рабілі экспрерыментаў, адвучылі людзей ад зямлі, ад працы. А ты хочаш, каб усё адразу. Таму ўсё залежыць ад галавы. Не ад балаболкі, а ад галавы. І прычым вельмі разумнай галавы...

— А дзе ж знайсці такую?

— Прыйдзе час, сама знойдзецца...

— Не, хлопцы, я вам скажу па шчырасці, — адарваўся ад майго касся Язэп, — па-дурному мы тады вырашылі, калі выбіралі паміж Кебічам і Лукашэнкам. Не разгледзелі, не разгадалі. А як трэба было? А ніяк! Ні за таго, ні за другога не варта было галасаваць.

— Ой, ці ж можна так?

— Можна, закон дазваляе. Няхай бы прызначалі новыя выбары і новых кандыдатаў. А мы, як тыя сляпыя куры, жвір замест пшаніцы падзяўблі. Тыя, што за бальшавікоў стаялі, ля гэтай улады і прыгрэліся. Хто на партыйныя грошыкі камерцыяй заняўся, хто пасады сабе прыдбаў, родных і блізкіх не пакрыўдзіў. Вунь, глянь, уся Магілёўская вобласць у начальніках ходзіць. Нядзіва, што там няма каму рабіць. Вобласць самая захудалая. Не, хлопцы, не той гэта чалавек, які нам патрэбен. Выбралі балаболак, а ён такіх жа балаболак па ўсёй краіне расставіў. Вось і балаболяць, што ў нас кожны дзень усё лепш і лепш: спачатку 100 долараў, а потым яшчэ 250 дадзім. Абяцанка-цацанка, а дурню — радасць. Вось бы за каго я прагаласаваў, дык гэта за Чыгіра! Ён мужык талковы, не выпендрываецца, не балаболіць, справядлівы. Успомніце, гэта ж ён першы адкрыта сказаў Лукашэнку: па-калгаснаму дзяржавай кіраваць нельга! Ну, вядома, Лукашэнка на яго зуб да сённяшняга дня точыць. Са злосці ўсю сям'ю гатовы са свету зжыць... Вы сабе як хочаце, а я галасаваць буду толькі за Чыгіра! Калі, вядома, яго зарэгіструюць...

— Так, так, будзе ён у спісах ці не — яшчэ невядома. Гэта як "пяцёрка" вырашыць. Можа, яна будзе за Домаша, а Чыгіру даверыць усёй гаспадаркай кіраваць?

— Дык гэта ж цудоўна! Домаш, мне граматныя мужыкі нядаўна талкавалі, чалавек добры, не выскачка, думкі не з гарачай патэльні хапае. Спачатку ўсё як след абмазгуе ды яшчэ са спецыялістамі, для вернасці, параіцца, а тады ўжо...

— Ды ў той "пяцёрцы" быццам бы ўсе мужыкі талковыя, — нясмела адазваўся маладзёнак Уладзік. — І генерал Казлоўскі, і прафсаюзны лідэр Ганчарык. Толькі вось як туды зачасаўся камуняка?

— Пэўне, і камунякі бываюць талковыя, — меркаваў мой сусед. — Толькі вось даверу ў мяне да іх няма. Грахоў у іх у мінулым шмат. Яны таксама абяцаюць многа, а наедку, як з рака. Не, я закамунякаў галасаваць устрымліваюся...

— Ну, а цяпер давайце костачкі астатнім перамыем, — заахвоціўся Кастусь. — Пятровіч, у цябе ёсць тая газета, дзе іх усіх разам прапісалі?

— Ат, кінь ты дурное, хлопец, — спыніў яго Язэп. — Ты, як баба тая, усім костачкі хочаш перамыць. Найбольш значных мы абскублі, а менш значных як-небудзь іншым разам. Давайце, мужыкі, заканчваць наш сход, бо хутка мая Марыля з фермы вернецца, то сёння паратунку ад яе не будзе. Перабрэша ўсіх ды яшчэ, чаго добрага, граблямі па спінах паходзіць. Яна як разгарачыцца, — буйная.

— І ў пасцелі такая? — смеючыся папытаў Кастусь.

— Такая ж...

— Пашчасціла мужыку, — ці то са спачуваннем, ці то ад зайздрасці нехта буркнуў сабе пад нос.

### Галасаванне

— То давайце будзем галасаваць, — прыспешваў Язэп. — Пятровіч, у тваёй газеце па краях шмат чыстага месца. Ці можна адарваць крыху на бюлетэні? Тады давай, Кузьміч, адрывай, і няхай кожны напіша на паперцы, за каго ён.

Мужыкі хуценька панапісвалі ў паперках прозвішчы, паскручвалі тыя "бюлетэні" ў трубачкі і апусцілі ў Язэпаў адзідасаўскі картуз. Пасля Кузьміч спрытна разгарнуў "бюлетэні" і, нарэшце, урачыста абвясціў:

— Больш за ўсіх галасоў набраў Кастусь. Вось сёння яму і ісці на "кропку". Бяром трохлітровік, як і ўчора?

— Месца сустрэчы — тое ж, — удакладніў Язэп і, ударыўшы апошні раз па кліне майго касся, усміхнуўся:

— А ты, Пятровіч, думаў, што мы прэзідэнта будзем выбіраць? Ха-ха... Гэта мы дзеля жарту. Каб не сумна жылося. А так... Нам выбары гэтыя да аднаго месца... Абдураць нас бальшавікі, як і раней... На, касі на здароўе! Сена сёлета, кажуць, ой як спатрэбіцца. Кажуць, гарачае дажджлівае лета будзе і восень няважная. Другога ўкосу можа і не быць. А зіма, па ўсім відаць, будзе лютай...

**в.Мазалі Маладзечанскага раёна.**

ТЭМА ДНЯ

## "Улада пайшла на жорсткі сцэнарый правядзення выбараў", — лічыць Павел Казлоўскі

"Улада пайшла на жорсткі сцэнарый правядзення выбараў", — заявіў у інтэрв'ю БелаПАН адзін з удзельнікаў прэзідэнцкай гонкі, былы міністр абароны, а цяпер старшыня Міжнароднага фонду рэабілітацыі здароўя былых вайскоўцаў Павел Казлоўскі. Днямі генерал Казлоўскі прысутнічаў на цырымоніі адкрыцця аддзялення пералівання крыві ў Гомельскай бальніцы хуткай дапамогі пасля рэстаўрацыі, праведзенай на сродкі Міністэрства абароны ЗША.

П.Казлоўскі лічыць, што ўлада нанесла дэмакратычным сілам "адэкватны ўдар", калі Цэнтрвыбаркам аб'явіў, што стотысячны рубеж збору подпісаў пераадолелі толькі чацвёра — Аляксандр Лукашэнка, Сяргей Гайдукевіч, Сямён Домаш і Уладзімір Ганчарык. Па словах П.Казлоўскага, яго ініцыятыўная група сабрала 116 тысяч подпісаў. Адэкватнасць удару ў тым, што ўлады "выбілі тых, хто мог бы таксама аказацца небяспечным у гэтай сітуацыі", сказаў былы кіраўнік Мінабароны.

П.Казлоўскі мяркуе: гэткае рэзкае скарачэнне колькасці прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта сведчыць аб тым, што А.Лукашэнка мае намер абмежаваць выбарчую кампанію толькі адным турам галасавання. Далей, на яго думку, з боку А.Лукашэнкі будзе "больш жорсткі сцэнарый знішчэння апанентаў і выйгрыш толькі ў першым туры". "Гэта вельмі небяспечны варыянт, але ён паскарае набліжэнне канца цяперашняй улады. Я не сумняваюся ў гэтым", — заявіў П.Казлоўскі.

Палітык падкрэсліў: "пяцёрка" дэмакратычных кандыдатаў, у склад якой ён уваходзіць, дамовілася быць разам, "што б ні здарылася". "Мы будзем даверчымі асобамі адзінага кандыдата, створым аб'яднаны штаб, будзем ісці да канца і потым будзем ядром таго кіраўніцтва, якое прыйдзе на змену гэтай уладзе, — сказаў П.Казлоўскі. Мы не дзелім загадзя "партфелі". Гаворка ідзе аб тым, каб захаваць адзінства ў будучым. Толькі гэтак можа быць ліквідавана процістаянне, якое існуе зараз у нашым грамадстве", — лічыць П.Казлоўскі.

**Ірына ШАНЦАВА.**

